# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 15 (1050) ГОД XXI 11 КРАСАВІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## Новыя вершы

* * *

*На месцы млына —*
*масток драўляны.*
*Гарыць каліны*
*лісток каляны.*
*Ільі,*
*мясцовага прарока,*
*Тут громам аддаюцца крокі.*
*Грыміць,*
*бяжыць масток драўляны*
*За тую вёску*
*Мастаўляны.*
*Ах, памяць, памяць чалавеча,*
*Ты станеш хутка акіянам.*
*Ты стольні увабрала*
*рэкаў,*
*А мост адзін.*
*І той...*
*драўляны.*

**Казімір Камейша**

## У ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ

**25 сакавіка г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прысвечана яно было падрыхтоўцы перадз'ездаўскага пленума ГП БГКТ, які вырашана правесці 11 красавіка г.г. Прэзідыум абмяркаваў матэрыялы на гэты пленум: праект справаздачы аб дзейнасці БГКТ у бягучай кадэнцыі і праект праграмы VIII з'езду БГКТ.**

**Прэзідыум вырашыў таксама правесці супольна з кураторыяй пад канец красавіка сустрэчу з дырэктарамі школ, дзе выкладаецца беларуская мова. Вызначана таксама сустрэча кіраўніцтва ГП БГКТ з настаўнікамі — завочнікамі беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Адбудзецца яна ў Варшаве 8 мая г.г. (рл)**

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# АРЭХАВІЧЫ

Гэта вёска, што раскінулася на схіле пагорка ў пяці кіламетрах на поўнач ад Бельска, здаўна славілася працавітымі сялянамі і добрымі землямі.

У „Люстрацыі" вёсак, належачых да фальварка Сталавач Бельскага староства, якая была праведзена ў 1576 г., чытаем: „Сяло Арэхавічы. У гэтым сяле валокаў 34 добрай зямлі, з якіх валокаў асадных 13 1/4 і з іх плоцяць чынш і за іншыя павіннасці, авёс, сена па літоўскіх грошай 106, разам літоўскіх коп (грошай — М.Г.) 23/24/5. Рабочых валокаў 20 3/4, з якіх плоцяць чынш і за іншыя павіннасці па грошай 29, разам літоўскіх коп (грошай) 10/1/7 1/2. Апрача гэтага аўса з кожнай валокі рабочай па 2 бочкі, разам бочак 41 1/2. Беручы за кожную бочку з адвозам паводле закону па літоўскіх грошай 10, гэта дасць літоўскіх коп (грошай — М.Г.) 6/55. Да гэтага з кожнай валокі сена па 1 возе, што дае вазоў 20 3/4. Беручы за кожны воз з адвозам па закону па 5 грошай, дае разам літоўскіх коп (грошай — М. Г.) 1/43/7 1/2. Млыновага плоцяць з кожнай валокі так асаднай, як і рабочай па літоўскіх грошай 6, значыць, з 34 валокаў — літоўскіх коп грошай 3/24". Нічога не скажаш, цягавітая і даходная каралеўскаму скарбу была вёсачка Арэхавічы! Належала да ліку самых лепшых у Бельскім старостве.

Спакон веку ўлюбёныя ў сваю зямельку тутэйшыя сяляне прытрымліваліся ва ўсіх сельскагаспадарчых працах своеасаблівага земляробчага календара, які быў сфармулаваны ў кароткіх прыказках. І так, гараць „чарнуху" (у загон, пад азімае жыта) ішлі пасля Барыса (6 жніўня): „На Барыса хлеба напорыся і за роллю бэрыся". Пры гэтым згадвалі пра будучы ўраджай: „Колі чорнуха курыт (пыліць —

(Працяг на стар. 4)



*Вёска Дарожкі (гміна Юхновец).* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## РЭФОРМА АСВЕТЫ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ШКОЛЕ

БАНК ДУМАК

VIII З'ЕЗД БГКТ

13 кастрычніка 1973 года Сейм ПНР прыняў пастанову аб сістэме народнай адукацыі, у якой зацвярджалася канцэпцыя агульнаадукацыйнай дзесяцігадовай сярэдняй школы з адзінай праграмай навучання і выхавання як у горадзе, так і ў сяле.

Пачатак увядзення самой рэформы прадугледжаны на 1978/79 навучальны год. Ад гэтага часу ўсе школы пераходзяць на новыя праграмы навучання ў I-III класах. А ў наступныя гады — паступова ва ўсіх далейшых класах. Дарэчы, ужо гатовы праекты праграм навучання па ўсіх прадметах і для ўсіх класаў. Цяпер яны абмяркоўваюцца на прадметных сеймах настаўнікаў, а зацвярджацца будуць на педагагічным кангрэсе ў чэрвені гэтага года. Поўныя праекты праграм друкуюць прадметныя часопісы для настаўнікаў.

Ужо цяпер звернута асаблівая ўвага на дашкольнае выхаванне. Рэформа прадугледжвае ўступны клас для шасцігодкаў, у якім дзеці будуць ужо знаёміцца з элементамі чытання і лічэння. Таму 1977/78 навучальны год павінен ахапіць прадшкольным выхаваннем усіх шасцігодкаў. (У гэтым годзе ахоплена 95% шасцігодкаў). Такім чынам, вучань трэцяга класа, які будзе ў 1978/79 годзе працаваць па новай праграме, скончыць дзесяты клас у 1986 годзе і стане перад выбарам далейшага жыццёвага шляху: або 2,5-гадовая падрыхтоўчая школа да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы або двухгадовая прафесіянальная школа, якая дасць акрэсленую прафесію.

Планавае ўвядзенне школьнай рэформы залежыць не толькі ад эканамічных фактараў (школьныя будынкі, давоз вучняў, арганізацыя харчавання і г.д.), але і ад забеспячэння высокакваліфікаванымі кадрамі настаўнікаў. У сучасны момант створаны спецыяльныя ўмовы для вучобы настаўнікаў (дадатковыя завочныя аддзяленні ў вышэйшых навучальных установах, розныя метады заахвочвання), і дзякуючы гэтаму 41% усіх настаўнікаў цяпер з'яўляецца студэнтамі-завочнікамі. Гэта адна з найбольшых цяжкасцей падставовага школьніцтва цяпер, у пераходны момант рэарганізацыі асветы, але ад добрых настаўніцкіх кадраў будзе залежыць якасць новай школы.

Разам з падрыхтоўкай новай праграмы рыхтуюцца да друку новыя падручнікі. Навіной у гэтай галіне будзе апрацоўка спецыяльных падручнікаў і для настаўнікаў, значна шырэйшых і ўзбагачаных.

Як жа ў новай сістэме навучання выглядаць будзе прадмет беларускай мовы?

З гэтым пытаннем мы звярнуліся да беластоцкага куратара Эдварда Крынскага.

— Канцэнтрацыя дзяцей у гмінных зборных школах, — сказаў куратар, — ні ў якім выпадку не выключае магчымасці беларускім дзецям вывучаць сваю родную мову. Хопіць, каб у школе знайшлося хоць бы сем чалавек, ахвотных вывучаць беларускую мову, і тады дырэктар школы абавязаны стварыць групу беларускай мовы. Так прадугледжвае пастанова Міністэрства асветы і выхавання. Так павінна быць цяпер і так будзе ў дзесяцігодках. А канцэнтрацыя дзяцей у адной школе з цэлага наваколля спрыяе павелічэнню групы ахвотных, — закончыў куратар.

Дзяржава стварае магчымасці дзецям з беларускага асяроддзя вывучаць родную мову, і ніякім правам не можа дырэктар гміннай школы пазбаўляць іх гэтай магчымасці, нават спасылаючыся на шматлікія цяжкасці. Пры добрай ахвоце можна зрабіць калі не ўсё, дык вельмі многа.

Іншы аспект гэтага — згода бацькоў. Некаторыя бацькі, асабліва малаадукаваныя, недаацэньваюць патрэбу навучання беларускай мове. Ім здаецца, што дзіця сваю мову і так ведае. „Дык няхай лепш вывучае іншыя прадметы", — думаюць яны. І зусім не разумеюць, што робяць гэтым свайму дзіцяці вялікую крыўду. Дзіця ж іх расце зу-

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**Інтэрв'ю са старшынёй Дзяржплана БССР Пілiпам Кохановым ● Фальклор у блузцы з ПКО?! Калі моцна хацець... ● Янка Крупа ● Настаўніца з Нарвы ● Слаўная сям'я Келераў ● Чалавечая гісторыя багатая ● 27 гадоў без дня адпачынку ● Весткі з Беластока, Нараўкі, Гайнаўкі, Бандароў, Чаромхі ● Калі сніцца калега ● Песня „Życzenia z całego serca".**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76



*Дуэт з Гарадка Ніна Мушынская — Надзея Парэмбская заняў першае месца ў катэгорыі фальклорнай песні.* *Фота Я. Цялушэцкага.*



Калаўрот з Сакольшчыны.
Фота Р. Сянько.

(Працяг са стар. 3)

## Нарадзіны Беларусі

Нацыянальным камісарыятам як органам цэнтральных улад Расійскай рэвалюцыі, сведчаць аб тым, што барацьба за ленінскія прынцыпы нацыянальнай палітыкі не была пазбаўлена драматычных эпізодаў. Мела месца спрошчанае разуменне нацыянальнага пытання як ужо неістотнага пасля сацыяльнага разняволення працоўных мас. Некаторыя кіраўнічыя работнікі Заходняй вобласці лічылі гэтае пытанне перажыткам капіталізму, а нават нацыяналістычнай дыверсіяй у некарысць сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі. Адмаўлялі ў існаванні беларускай нацыі як неабходнага элемента рэчаіснасці. Супрацьставілі патрыятызм інтэрнацыяналізму.

Круталевіч выкрывае шаблонную трактоўку гэтага перыяду з боку беларускіх гісторыкаў. Дае ён падставы для болей шырокага, усебаковага даследавання пачаткаў беларускай дзяржавы, якой магла быць толькі савецкая! Падрабязна апісаў ён год, у якім на палітычнай карце свету ўпершыню за ўсю сваю паднявольную гісторыю з'явілася Беларусь. Можна і трэба чакаць далейшых даследаванняў нашай гісторыі, аб якой маем, на жаль, пакуль падручнікавае ўяўленне.

Аўтар „Рождения Белорусской Советской Республики" карыстаўся шматлікімі крыніцамі, у іх ліку і апублікаванымі даследаваннямі нашых гісторыкаў, між іншым, А. Бергман. Не менш цікавымі акажуцца тут працы Ю. Пацука, В. Склубоўскага ці Ю. Туронка.

**Сакрат Яновіч**

* В. А. Круталевич. Рождение Белорусской Советской Республики. Выдавецтва „Навука і тэхніка", Мінск 1975. Стар. 335.

*Госціла дзенёк, госціла другі,*
*а на трэці наступае — думай додому,*
*а на трэці наступае — думай додому.*
*До роду ішла — сцёжкі-дорожкі,*
*як до цебе, мой міленькі —то ліла слёзкі,*
*як до цебе, мой міленькі, — то ліла слёзкі.*

Ад Марыі Лубнеўскай, 1914 г. нараджэння і Чаславы Катовіч, 1940 г. нараджэння, вёска Ахрэмавічы гм. Заблудаў, запісаў 5 лістапада 1975 г. М. Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі — Людмілы Панько.




## Уся надзея ў футболе

Ну, і завялася нейкая чартоўская сіла на гэтым свеце ды муціць чыстую ваду. Скажыце самі, даражэнькія, ці ж гэта нармальная з'ява, калі чысценькая школьная спартыўная пляцоўка пачынае ў нейкую пачвару змяняцца, якая ні то да праезднай дарогі, такой як сусед суседу праз засеянае поле пралажыць, падобная, ні то на сметнік, ні то на чортавае логава змахвае? Што за дзіва, і ўцяміць цяжка. А ўсё пачалося ад каналізацыйных труб, якія праводзілі да цэнтральнага раёна Бельска. Ну, і як на грэх спартыўная пляцоўка Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ды пачатковай школы № 3 на дарозе ляглі. Раскапалі так, як не сваё. Цэлае лета рыліся ды нават яшчэ і пачатак восені захапілі. А фізкультурныя заняткі? Неяк там адбываліся. Але не ў тым бяда. Трубы пралажылі, зямлю неяк зраўнялі. Усё б неяк зажыло, зарастаючы паступова травой, ды сетка, якой была агароджана пляцоўка, прапала. Як камфора, знікла. Праўда, не ўся, але цэлы вугал на вуліцы Варынскага і магутны кусок ад бульвара. Так што можна цяпер напрасткі смычыць, замест дарогай абыходзіць. Каб гэта было хаця пасля „Гагатухі", то можна было б падумаць, што нейкія жартаўнікі на кіламетраў пяць адвалаклі, але ж яе і раней ужо не было. А прапала яна якраз тады, калі раскопы пад трубы рабілі. Гэта што праўда і выясняе яе знікненне, але абсалютна нічога не гаворыць, чаму яна не паявілася. Ва ўмове паміж дырэкцыямі школ і Акруговай дырэкцыяй гарадскіх інвестыцый у Беластоку з 5 жніўня 1975 г. выразна гаварылася, што пасля заканчэння ўсе шкоды будуць ліквідаваны. Аднак БППБ у Бельску, якому гэта даверылі, далікатна заплюшчвае вочы. А тут жа вясна набліжаецца, а за ёю і цяпло стукне. Тады ж фізкультурныя заняткі толькі на пляцоўцы весці! Але як? Вось гэта і ёсць істотнае пытанне, на якое адказаць цяжка. Я ўжо, будучы аднойчы ў ліцэі і гледзячы праз вакно, нават фантазію ў ход пускаў. Ды нічога! Ну паглядзіце самі. Вось фізкультурныя заняткі. Бегавая дарожка. Некалькі вучняў, выставіўшы спіны да сонца, з напружаннем чакае стартавага сігналу. Свісток! І ўсе зрываюцца з месца, забыўшыся аб існуючым наваколлі. Ды раптам! Што гэта? Заклубавалася, толькі жужлявы пыл слаўбом стаў. Гэта ж проста нейкая цётачка з сеткай за пакупкамі выбралася ды так пераняласся, што аб усім на свеце забыла і на бегуноў напаролася. Навошта ж ёй кругом абыходзіць, як напрасткі бліжэй. Якраз насупраць крамы выйдзе. А спартыўная пляцоўка? Вялікая там рэч! Хай бы не разгароджвалі! Кожны ў жыцці прасцейшых дарог шукае.

А там вунь у даль скачуць. Вось пачынае адзін набіраць разбег. Яшчэ крыху! Крыху яшчэ! І бабах на кола веласіпеда! Так гэта нейкі дзядзька праставаў дарогу.

— Чаму?

— А чаму ж маю не ехаць? Усе ездзяць і я еду. Разгароджана, — адкажа ён.

Скажаце, што не здаралася! Так, гэта праўда, але чаму мае не здарыцца, калі ездзяць і ходзяць? Сам жа бачыў. І пакуль не будзе загароджана, небяспека будзе пагражаць. Перасцярога тады, калі ўжо здарыцца, не будзе мець найменшага сэнсу. Не раз сабе думаў — вось добра, што не пад школай гэтыя трубы трэба было класці. Тады б нарабілася, каб у сценах дзірак напрабівалі. Сядзіш на ўроку, а тут табе нехта веласіпедам у клас пхаецца. Бо дзе ж бы так хутка заладзілі сцяну, калі такую сетку ўжо некалькі месяцаў закладаюць і залажыць не могуць. А людзі — чаму не! Дзе толькі дзірка, туды будуць пхацца. А калі яшчэ ўбачаць што сусед пайшоў?!

Адна надзея засталася толькі ў футболе. Вось каб так некалі нехта сadануў нагой у мяч, каб той праз разгароджанае месца на вуліцу вылецеў ды смальнуў у галаву некага з БППБ. Можа б тады прыпомнілася недагледжанае. Можна было б паспрабаваць. Навошта школа мае кару плаціць перад якой, пісулькай ГКМ III-402/2/53/75 з 17.XI.1975 г., гарадскія ўлады перасцерагаюць. Ці ж гэта яе віна?

**М. Шаховіч**

(Працяг са стар. 3)




лі, далі потым паперы, а нават зброю і даверылі апеку над астаўшыміся тарпанамі. Больш дзесяці дзён у маёй старажоўцы часова размяшчаўся ваенны штаб, пакуль рускія не ўзялі Бельска. Асабліва я запамятаў з таго перыяду капітана Пінчука, які многа мне памог пры арганізацыі працы.

У момант прыняцця гадоўлі польскімі ўладамі ў звярынцы было 13 конікаў. Новы дэкрэт, даючы працу на старым месцы, я атрымаў з рук дырэктара Я. Е. Карпінскага 15.III.1945 г. Неўзабаве прыехаў у Белавежу праф. Вэтуляні. Пачаў ізноў весці даследаванні. Ездзіў нават у Германію шукаць вывезеных у вайну тарпанаў. Не знайшоў.

У 1954 г. я стаў ляснічым. Ад таго часу пачаў я апекавацца і зубрамі, але гэта ўжо іншая гісторыя. Гадоўля тарпанаў затрымалася. Ніяк не ўдавалася дасягнуць новых прыкмет, тыповых для гэтай пароды. На няшчасце, памёр прафесар Вэтуляні. Пачалі меркаваць, што рабіць далей. Хтосьці запрапанаваў паазначваць усіх конікаў і выпусціць на свабоду. Зрабілі ўжо нават адпаведныя пячаці (адну такую хаваю да сённяшняга дня), але потым зразумелі, што гэта недарэчнае рашэнне. Гадоўлю пераняў ПГР у Папельне па ўказанню Міністэрства земляробства. Конікі, якіх цяпер можна глядзець у паказальным запаведніку, пры зубрах, — гэта астатак старой гадоўлі. На пенсію пайшоў я 1.V. 1968 года, праз 33 гады беспераппыннай працы на адным месцы. Вось такая, у вялікім скарачэнні, гісторыя белавежскіх тарпанаў, ну і, вядома, мая".



*Канстанцін Казак.*

Ад сябе скажу, што Канстанцін Казак цяпер ужо 73-гадовы мужчына. Але ён старасці не здаецца. З'яўляецца адным з найактыўнейшых экскурсаводаў. Амаль кожны дзень можна яго ўбачыць на турысцкім шляху. Зразумела, што апавядаць экскурсантам мае аб чым. Таму яго і вельмі цэняць. Нядаўна праўленне гуртка экскурсаводаў прызнала яму ўзнагароду за выдатныя заслугі на ніве экскурсаводства.

Тэкст і фота
**Пятра Байко**

## Сучасны Юдым

Ужо болей трох год загадчыкам пункта аховы здароўя ў Крушынянах з'яўляецца доктар Францішак Пяткевіч. Чалавек у старэйшым узросце, але яшчэ поўны энергіі і добрага здароўя. Жонка яго Сабіна з'яўляецца медсястрой і выконвае ўсю вялікую работу, якая да яе належыць. Пацыентаў у доктара Пяткевіча многа, і пераважна гэта людзі старэйшыя. Прыязджаюць яны здалёк у Крушыняны, бо ведаюць нашага доктара далёка. А лячыць старэйшых людзей цяжка, бо такі хворы не заўсёды ведае, што яму баліць, бо баліць яму ўсё. Аднак доктар Пяткевіч ніколі не паддаецца, не падае духам і, хоць працуе многа, аднак у яго, як і ў яго жонкі, заўсёды знойдзецца добрае і цёплае слоўцо для чалавека. Яны ўмеюць нават цяжка хворым уліць надзею. І выходзіш з кабінета гэтага лекара бадзёрым крокам, падмацаваны на духу і як бы мацнейшы фізічна.

Яшчэ варта сказаць, што доктар Пяткевіч і добры агароднік, ён цікавіцца жыццём вёскі і да ўсіх спраў свайго асяроддзя адносіцца з пачуццём грамадскай адказнасці.

**Дзед Кастусь**

